ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

№ 18(5200)
Аўторак,
13 лютага
2001 года

Выходзіць
з 20 снежня
1945 года

Кошт
у розніцу —
48 руб.







Калі б камяні маглі размаўляць, то шмат аб чым паведалі б нам. Напрыклад, тыя, што ляжаць зараз на паліцах адчыненага нядаўна ў шаснаццатай гродзенскай школе адзінага ў краіне дзіцячага мінералагічнага музея, распавялі б пра тое, як дзесяць гадоў таму сюды прыйшоў адзін чалавек — Уладзімір Анатольевіч Жданюк з незвычайнай прапановай: адчыніць гурток "Юны геолаг". Як з цягам часу невялічкі гурток пераўтварыўся ў геалагічны атрад "Карат", як зрабілі ў школе майстэрню па апрацоўцы камянёў. Пра семнаццаць цікавых і вельмі няпростых экспедыцый на Урал, у Крым, у Забайкалле, на Кольскую паўвыспу, у якіх дзеці не на словах, а на справе праявілі такія якасці, як працалюбства, узаемадапамога, вынослівасць, сяброўства. Пра тыя тры з нечым тоны камянёў, што прынеслі ў сваіх рукзаках хлопцы і дзяўчаты.

Кажуць: "Час збіраць камяні, і час раскідваць камяні". Здаецца, што і гэты час для юных геолагаў надышоў. Той багаты матэрыял (калекцыя мінералаў, самацветаў ды каштоўных камянёў), што яны збіралі ўсе гэтыя гады, тыя цудоўныя рэчы, што былі зроблены іх рукамі, сёння са стэндаў школьнага музея адкрываюць кожнаму, хто прыходзіць, чароўны, загадкавы свет камянёў — адну з найвялікшых таямніц прыроды.

**Юрый БОНДАРАЎ.**

НА ЗДЫМКАХ: заснавальнік і нязменны кіраўнік атрада, а зараз і ўзорнай майстэрні-студыі "Карат" Уладзімір Анатольевіч Жданюк са сваім памочнікам Андрэем Мікалаевічам Стурэйкам; у музейнай зале; экспанаты новага музея.

**Фота аўтара.**

## Праца над папраўкамі працягваецца

Чарговае пасяджэнне Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічнаму прагрэсу было прысвечана ўзгадненню з міністэрствамі фінансаў, працы і эканомікі унесеных дэпутатамі Палаты прадстаўнікоў праправак да праекта Закона Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь" (арт. 70, 72 законапраекта, якія рэгулююць аплату працы, ільготы для педработнікаў у сельскай мясцовасці і фінансаванне сістэмы адукацыі).

У пасяджэнні прынялі ўдзел намеснік старшыні Палаты прадстаўнікоў Уладзімір Канаплёў, старшыня Пастаяннай камісіі Ігар Катляроў, яго намеснік Уладзімір Здановіч, першы намеснік міністра працы Валерый Паўлаў, намеснік міністра фінансаў Анатоль Сверж, намеснік міністра эканомікі Андрэй Тур і намеснік міністра адукацыі Генадзь Дылян.

Адбылася зацікаўленая, канструктыўная размова, падчас якой выказана шмат прапаноў.

Праца над унесенымі ў Закон папраўкамі працягваецца.

**Наш кар.**

Сталічная адукацыя

## Традыцыі клопату і міласэрнасці

***Аддзелы адукацыі, аховы здароўя, сацыяльнай дапамогі, гандлю і бытавога абслугоўвання Ленінскага раёна сталіцы правялі значную работу па арганізацыі выканання гарадской праграмы "Дзеці Мінска".***

Так, аддзел здароўя курыраваў падпраграмы "Дзеці Чарнобыля" і "Дзеці-інваліды". У кожнай дзіцячай паліклініцы раёна створаны інфармацыйныя цэнтры па прапагандзе здаровага ладу жыцця, у гэтых жа ўстановах працягваецца збор інфармацыі ў банк даных "Сям'я і дзеці", афармляюцца сацыяльныя пашпарты сем'яў з групы рызыкі, збіраюцца даныя аб дзецях-інвалідах.

У дзіцячых паліклініках Ленінскага раёна праводзіцца штогадовая дыспансерызацыя дзяцей, якія сталі ахвярамі радыяцыі пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Трыццаць адзін хлопчык і дзяўчынка з іх у вызначаны тэрмін падмацоўвалі сваё здароўе ў санаторыях, дваццаць сем — у аздараўленчых летніках, у дамах адпачынку — тры чалавекі, у тым ліку за мяжой — чатыры і на базе раённых стацыянараў — сем чалавек.

У сярэдніх школах Ленінскага раёна рэгулярна праводзяцца ўрокі стаматалагічнага здароўя, а ў паліклініках адбыліся агляды-конкурсы на лепшы санбюлетэнь і наглядную агітацыю па выхаванні здаровага ладу жыцця.

У 7-й дзіцячай паліклініцы функцыянуе школа для дзяцей, якія пакутуюць на парушэнні постаці, у 4-й — астма-школа. У школах №№29, 59, 55 і ПТВ №11 арганізавана навучанне дзяцей і падлеткаў рэпрадуктыўным паводзінам, праводзяцца конкурсы "Курэнне? На гэта няма часу!", "Не — наркотыкам!", "СНІД — чума XX стагоддзя", раённыя дыскатэкі для школьнікаў "Моладзь супраць СНІДу", "Прыступкі да здароўя" — на базе кінатэатра "Ракета", "Маё здароўе — здароўе ўсіх..." — на базе кінатэатра "Салют".

336 дзяцей было аздароўлена ў санаторыях як на тэрыторыі нашай краіны, так і за яе межамі.

У аддзеле адукацыі раёна створаны і працягвае фарміравацца банк даных аб дзецях-сіротах і дзецях, якія засталіся без апекі дарослых, іх магчымага ўладкавання ў сем'і грамадзян. Збор інфармацыі аб сем'ях патэнцыяльных усынавіцеляў, апекуноў вядзецца праз работу з бацькамі ў школах і дзіцячых дашкольных установах, звароты да кіраўнікоў і работнікаў прадпрыемстваў. У аддзеле адукацыі створаны і штогод карэкціруецца банк даных аб няўдалых сем'ях, якія маюць непаўналетніх дзяцей (сацыяльны спіс). Сумесна з аддзелам занятасці Ленінскага райвыканкама кожны год рэзервуюцца месцы для дзяцей-сірот, якія атрымалі прафесійную падрыхтоўку ў ПТВ. Гэтыя ж дзяўчаты і хлопцы бясплатна ездзяць на грамадскім транспарце, наведваюць тэатры, залы выстаў дзякуючы так званым адзіным білетам.

707 вучняў з малазабяспечаных сем'яў бясплатна атрымліваюць гарачае харчаванне ў школах раёна, такімі ж ільготамі карыстаюцца і 1268 дзяцей з праблемных сем'яў, 128 вучняў спартыўных класаў і 461 чалавек з падрыхтоўчых класаў.

Па існуючай у раёне традыцыі штогод для дзяцей-інвалідаў праводзяцца Калядныя святы і Дні імяninніка з абавязковым салодкім сталом, падарункамі, канцэртам і дыскатэкай.

У 2000 годзе ў дадатак да існуючых у агульнаадукацыйных школах раёна адкрыты чатыры класы інтэграванага навучання. Сёлета сетку такіх класаў плануецца пашырыць.

**Вольга ДУБОВІК.**

Не ўсё так і дрэнна

## Духам не збяднелі

***У снежні мінулага года дырэкцыя Полацкай школы-інтэрната звярнулася праз мясцовыя сродкі масавай інфармацыі з просьбай да палачанаў запрасіць выхаванцаў школы ў свае сем'і для сустрэчы Новага года.***

Гэтую ідэю дырэктар школы-інтэрната Уладзімір Муха выношваў доўга. Сёння тут навучаецца больш за трыста дзяцей, трэць з іх — выхаванцы, якія пастаянна жывуць у інтэрнаце, 70 — і зусім сіроты. Чаму б кожнаму з іх не знайсці сям'ю? Італьянцы чатыры гады запар запрашаюць полацкіх дзяцей да сябе ў госці на зімовыя і летнія канікулы, пяцёра ужо ўсынавілі, на чарзе — яшчэ некалькі. І толькі адно дзіця знайшло новых бацькоў у Віцебску. Няўжо за эканамічнымі праблемамі мы сёння нічога не бачым? І настолькі ачарсцвелі нашы душы, што да іх не дастукацца? Такія пытанні пастаянна задаваў сабе дырэктар школы-інтэрната. Адказу не было. Адказ з'явіўся сёння, пасля звароту педагогаў з такой нечаканай прапановай.

Тэлефанавалі не толькі з Полацка, але і з іншых гарадоў і раёнаў Віцебшчыны. Канешне, проста так, па першым жаданні, узяць дзіця ў новую сям'ю нельга. Неабходна аформіць дакументы: даведку аб дабрабыце сям'і, жыллёва-бытавых умовах. Не ўсе жадаючыя змаглі рэалізаваць свае магчымасці, таму што да Новага года заставаліся лічаныя дні. Але тыя, хто аператыўна ўладзіў неабходныя фармальнасці, у навагоднія дні прымалі ў сваіх дамах маленькіх гасцей.

Святлана Крывашапава з Полацка запрасіла да сябе адразу чацвёра дзяцей, а праз месяц прыняла рашэнне аформіць апякунства над адным з іх.

Андрэй Прасанаў з Полацкага раёна літаральна ў апошні дзень мінулага года прыехаў у школу-інтэрнат, каб знайсці сяброўку для сваёй дачкі, і ўзяў адразу дзвюх сястрычак.

Выхаванец школы-інтэрната Слава так пасябраваў са сваімі новымі "бацькамі" і братам, што цяпер усе выхадныя жыве ў іх, штосьці майструе, паяе.

Думаецца, сумную гісторыю жыцця трынаццацігадовага Вані чакае шчаслівы працяг. Маці хлопчыка пазбаўлена бацькоўскіх правоў, жыве ў Полацку. Хлопчык пастаянна ўцякаў са школы-інтэрната да яе, недзе хаваўся, яго знаходзілі і вярталі назад. Але ён зноў уцякаў... Аднойчы ён дабраўся аж да Міёрскага раёна. Там ён пазнаёміўся з сям'ёй фермераў, жыў у іх некалькі дзён. Завязалася дружба. Таму на заклік дырэкцыі школы-інтэрната з Міёршчыны адгукнуліся адразу. Зімовыя канікулы Слава правёў у новай сям'і. І цяпер вырашаецца пытанне аб яго ўсынаўленні. Дарэчы, новыя бацькі хлопчыка ўжо маюць трое дзяцей.

Такім чынам, каля дваццаці выхаванцаў сустрэлі Новы год, новае стагоддзе і трэцяе тысячагоддзе (ці не сімвалічна?) па-за сценамі школы — за святочным сталом, у сям'і, а ў школу вярнуліся з масай уражанняў і падарункаў. Акрамя таго, большасць тых, хто адгукнуўся на прапанову палачан, катэгарычна адмаўляліся ад матэрыяльнай кампенсацыі, што выдзяляецца дзяржавай на харчаванне дзіцяці — 1470 рублёў у дзень. "Навошта мне грошы? — пацісnуў плячыма Андрэй Прасанаў. — Я ж сёння парсючка зарэзаў!" Тыя, хто запрасіў у сваю сям'ю выхаванцаў школы, у асноўным людзі з сярэднім дастаткам.

— Мы не бралі на мэту, каб нашых дзяцей пашкадавалі, — гаворыць Уладзімір Муха. — Дапамагчы ў выхаванні — вось што нам неабходна. Не сакрэт жа, што многія з нашых выхаванцаў акрамя п'янак-гулянак так званых бацькоў нічога ў жыцці і не бачылі. Толькі ў нашай школе-інтэрнаце яны даведаліся, што такое пластылін і каляровыя алоўкі, навошта трэба чысціць зубы і засцілаць ложак. Мы спрабуем максімальна наблізіць умовы казармы да ўмоў дома. Але толькі наблізіць. Замяніць дом ніколі не зможам. Заўсёды гэта будуць казённыя ўмовы. А нашы дзеці павінны выйсці гатовымі да ўмоў жыцця. Цяпер мы спадзяемся і на дапамогу тых сем'яў, якія з'явіліся ў нашых выхаванцаў.

І надзея гэта апраўдана, бо многія з іх збіраюцца запрасіць дзяцей на веснавыя і летнія канікулы. А значыць, дружба будзе працягвацца і замацоўвацца. І ўсходы, што праraслі ў нашых сэрцах, дадуць добрыя плады. "Мяне да апошняга мучылі сумненні: ці зразумеюць людзі?, — сказаў на развітанне Уладзімір Мікалаевіч. — Зразумелі. А значыць, не збяднелі мы духам. Будзем жыць".

**Любоў ТРАПЕЗНІКАВА.**

Руплівцы педагогікі

## Адметны творчы почырк

***Алена Сямёнаўна Рэут, настаўніца геаграфіі сярэдняй школы № 1 Валожына, чалавек вядомы ў гэтым раёне. Галоўную ўвагу ў сваёй рабоце яна звяртае на дасягненне творчага, глыбокага засваення школьнікамі геаграфічных і экалагічных ведаў, на прывіццё ім уменняў самастойнай працы.***

Спалучэнне патрабавальнасці і строгасці з павагай, разуменнем і карэктнасцю — вось што вызначае Алену Сямёнаўну сярод калег. Настаўніца праводзіць высокаэфектыўныя, сучасныя па змесце і методыцы ўрокі, накіраваныя на развіццё ў вучняў як агульных, так і спецыяльных уменняў і навыкаў.

На ўроках Алены Сямёнаўны ўражвае пастаянная ўвага вучняў, якая дасягаецца не пагрозамі і не заўвагамі. Галоўнае ў яе рабоце — вопыт, веды, падрыхтоўка і сама асоба настаўніцы, яе душэўная раўнавага, чысціня яе думак. Яна любіць усіх дзяцей: і тых, хто добра і хутка вывучае матэрыял, і тых, каму вучоба даецца крыху цяжэй. Высокі прафесіяналізм дапамагае ёй правільна здзейсніць індывідуальны падыход да кожнага вучня.

Для актывізацыі разумовай дзейнасці вучняў на ўроку А.С.Рэут скарыстоўвае сучасныя прыёмы і метады. Практыкуе выкладанне новай тэмы буйнымі блокамі, праводзіць урокі-лекцыі, канферэнцыі, урокі групавой работы, урокі — дзелавыя гульні.

Кожны ўрок Алены Сямёнаўны адметны якой-небудзь навізной. Заняткі маюць такую структуру, якая спрыяе засваенню новых ведаў на ўзроўні ўзнаўлення і ўменне выкарыстаць іх у новай сітуацыі.

Кожную хвілінку на ўроку настаўніца выкарыстоўвае рацыянальна. Шырока практыкуе Алена Сямёнаўна самастойную работу вучняў з падручнікамі, з контурнымі картамі, сшыткамі, схемамі. Дасягнуць трывалых ведаў вучняў дапамагаюць франтальныя, індывідуальныя і групавыя формы работы. Франтальную Алена Сямёнаўна выкарыстоўвае пры тлумачэнні новага матэрыялу, спалучае яе з лекцыяй, з самастойнай работай з падручнікамі і сшыткамі. Настаўніца накіроўвае думку вучняў на тое, каб яны ўмелі выдзеліць галоўнае з навучальнага матэрыялу.

Па сваім прадмеце А.С.Рэут праводзіць вялікую пазакласную работу: добра працуе вось ужо 10 гадоў факультатыў "Геаграфія і ты". Настаўніца праводзіць пазаўрочныя мерапрыемствы, у якіх вельмі актыўна ўдзельнічаюць вучні. Вялікую ўвагу надае ахове навакольнага асяроддзя. Яе вучні паказваюць добрыя веды на раённых алімпіядах, удзельнічаюць і ў абласных.

Алена Сямёнаўна вельмі актыўна дзеліцца з калегамі сваім багатым вопытам работы: дае адкрытыя ўрокі як для настаўнікаў сваёй школы, так і для настаўнікаў раёна.

Дырэктар сярэдняй школы № 1 Валожына Ала Аляксандраўна Макарэвіч пра А.С.Рэут сказала так: "Не ўяўляю нашу школу без Алены Сямёнаўны. Яна — наш маяк. Настаўнік-метадыст, мудры сябра моладзі, педагог-творца".

**Мікалай ГРУДЗІНСКІ.**

## Калі б усе настаўнікі былі такімі...

***Як мне здаецца, урокі беларускай мовы і літаратуры цяпер не вельмі папулярныя ў вучняў. У чым жа прычына? У бацьках, якія навязваюць сваё меркаванне, ці ў жаданні юнакоў і дзяўчат не быць "старамоднымі"? Часам можна заўважыць і іншае. Вучню падабаюцца ўрокі роднай мовы і літаратуры, але ён, каб не быць "белай варонай", не паказвае гэтага. Як сведчыць практыка, многае залежыць ад настаўніка. Часам самі беларусаведы гавораць на ўроку на "трасянцы", а ад вучняў патрабуюць размаўляць на літаратурнай мове бездакорна. Ці яшчэ такое: урокі праходзяць манатонна, не вельмі цікава.***

Якімі павінны быць сапраўдныя ўрокі беларускай мовы і літаратуры? Выкарыстанне новых навучальных тэхналогій яшчэ не гарантуе поспеху. Самае важнае, на мой погляд, жаданне і ініцыятыва, уменне падабраць ключык да сэрцаў і душы кожнага вучня. Ні ў якім разе не трэба рабіць стаўку на прымус. Трэба толькі накіраваць вучняў у бок паразумення.

Менавіта дзякуючы сваёй настаўніцы беларускай мовы і літаратуры Алене Несцяровіч я шчыра палюбіў сваю родную мову, зразумеў, што кожны беларус, які паважае сябе і Радзіму, павінен валодаць родным словам.

На ўроку Алены Уладзіміраўны я быццам пераношуся ў іншы свет — свет чыстага, звонкага, празрыстага, ласкавага беларускага слова.

Вельмі часта ў нас праходзяць нетрадыцыйныя ўрокі беларускай мовы і літаратуры. Мы абмяркоўваем, дыскусіруем на розныя цікавыя тэмы, праводзім інтэлектуальныя віктарыны. Часам мы робім цікавыя паведамленні, рыхтуем тэксты.

А нядаўна Алена Уладзіміраўна падтрымала яшчэ адно наша цікавае пачынанне: у школе адбылося ўрачыстае адкрыццё суполкі грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны", на якое мы запрасілі шаноўных гасцей — старшыню гарадской Рады "ТБМ імя Ф.Скарыны", дацэнта кафедры беларускай літаратуры факультэта славянскай філалогіі МДУ імя А.А.Куляшова, Яраслава Клімуця і Заслужанага дзеяча культуры Рэспублікі Беларусь, кіраўніка народнага тэатра Валянціна Ермаловіча.

Зараз у нашай суполцы звыш 150 сяброў. Яна актыўна супрацоўнічае з метадычным аб'яднаннем настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры сярэдняй школы №35 (кіраўнік — Галіна Шчэрба), з дырэкцыяй школы, са СМІ.

На працягу студзеня праходзіў конкурс "Рамантызм". Пераможцай яго стала вучаніца 10 "В" класа Алена Кудаева.

Мы ўключыліся "з падачы" "Настаўніцкай газеты" ў І рэспубліканскі конкурс "На ўрок, як на свята" на лепшы ўрок беларускай мовы і літаратуры, наведалі і спектакль тэатра сатыры і гумару "Хрыстафор", які быў на гастролях у Магілёве.

Запланаваны семінар па творчасці выдатнага беларускага пісьменніка-драматурга Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча.

У школе пачала выходзіць беларускамоўная газета, якая распавядае пра жыццё суполкі.

Алена Уладзіміраўна натхняе мяне на творчыя справы. Яна вельмі падабаецца мне і як настаўніца і як старэйшы таварыш, з якім заўсёды можна параіцца, знайсці адказ на самае надзённае пытанне. Паверце мне: калі б усе настаўнікі былі такімі, як Алена Уладзіміраўна, то наша адукацыя абавязкова была б наперадзе ўсёй планеты!

**Яўген ЗАДЗІРАН,**
**вучань 10 "Б" класа сярэдняй школы №35 Магілёва,**
**кіраўнік школьнай суполкі грамадскага аб'яднання "ТБМ імя Ф.Скарыны".**

## Так мы адпачываем

***У сярэдняй школе № 206 Мінска часта праводзяцца разнастайныя мерапрыемствы для вучняў: канцэрты, дыскусіі, сустрэчы з цікавымі людзьмі. У распрацоўках праграм удзельнічаюць самі вучні, а таксама наш выдатны педагог-арганізатар. Кожны раз прыдумваем штосьці новае, больш цікавае.***

Надоўга запомняцца канцэрты, прысвечаныя да Дня настаўніка і Новага года, на якіх гучалі словы ўдзячнасці дырэктару Іне Іванаўне Скрыпінскай, завучам Тамары Іванаўне Доўнар, Тамары Цімафеeўне Варабей, а таксама настаўнікам.

Пасля цудоўнай канцэртнай праграмы на першым паверсе нашай школы пачынаецца дыскатэка. Музыка гучыць абавязкова самая модная. Дзяўчынкі заўсёды пачынаюць танцаваць першымі, а потым падключаюцца хлапчукі. Што характэрна, на нашу дыскатэку прыходзяць вучні і з іншых школ. Яны хочуць убачыць і параўнаць тое, як мы ўсёй школай святкуем Новы год, 23 лютага, 8 сакавіка, восеньскі баль, Дзень настаўніка, сустрэчу з выпускнікамі...

Падчас танцаў дзяўчынкі часценька падбягаюць да вялікага люстэрка: падфарбоўваюцца, папраўляюць складаныя прычоскі, усміхаюцца самі сабе і радуюцца цудоўнаму вечару. Да сярэдзіны дыскатэкі ўжо нельга разабраць дзе хто. Натоўп змешваецца, мігатлівыя агні і завадная музыка не дазваляюць спыніцца.

Час ляціць няўмольна, і дыскатэка заканчваецца. Мы забіраем свае курткі з гардэроба і выходзім на вуліцу. Ва ўсіх абавязкова застануцца незабыўныя ўражанні. Усе вясёлыя і задаволеныя. Мы яшчэ гpомка размаўляем на школьным двары, абмяркоўваем тое, як прайшоў вечар. Госці з суседніх школ прызнаюцца, што нават не чакалі, што дыскатэка пройдзе так спакойна і весела, без "разборак" і здарэнняў са спіртным. Нам вельмі прыемна чуць такі водгук.

Загадзя мы пачалі рыхтавацца да святочнай праграмы, прысвечанай да Дня абаронцы Айчыны. Упэўнена, што яна абавязкова атрымаецца такой жа цікавай, як і ўсе мінулыя.

**Іна ФЯДОТКАВА,**
**вучаніца 8 "Г" класа сярэдняй школы № 206 Мінска.**

